## ЗНАЙСЦІ РАБОТУ СТАНОВІЦЦА ЎСЁ ЦЯЖЭЙ

**У беларускай сталіцы назіраецца імклівы рост беспрацоўя. Паводле даных Мінскага гарадскога цэнтра занятасці насельніцтва, афіцыяльная колькасць тых, хто шукае работу, вырасла з 12.944 чалавек (на 1 студзеня) да 20.375 чалавек (на 1 верасня).**

Увогуле, па звестках дзяржаўнай статыстыкі, у народнай гаспадарцы горада (без уліку малых, сумесных прадпрыемстваў, адкрытых акцыянерных таварыстваў і кааператываў) за 9 месяцаў было занята 625 тысяч чалавек. Гэта на 26,4 тыс. менш, чым за такі ж час у мінулым годзе. Найбольш істотныя зніжэнні аб'ёмаў занятасці адбыліся ў сферы матэрыяльнай вытворчасці: у прамысловасці — на 25,5 тыс. чалавек, у будаўніцтве — на 6,6 тыс. У невытворчай сферы стала працаваць на 4,2 чалавек больш.

Па стану на 1 верасня ўзровень беспрацоўя да эканамічна актыўнага насельніцтва быў 2,4 працэнта. Трэцюю частку рынку працоўнай сілы складалі выслабаненыя работнікі. Прыкладна пятую частку — звольненыя па ўласнаму жаданню, а таксама за парушэнні працоўнай дысцыпліны.

Да канца 1996 года чакаецца рост беспрацоўя ў Мінску да 23 тыс. чалавек, а яго ўзроўню — да 2,7 працэнта. Аднак гэта датычыцца толькі афіцыяльнага беспрацоўя , а ўзровень беспрацоўя з улікам «скрытага» складае каля 8 працэнтаў.

**Сяргей КУЗНЯЦОЎ.**

## ВУЧЭБНАЙ СЕТЦЫ МІНСТАТА — 70

**У лістападзе спаўняецца 70 гадоў з часу ўтварэння вучэбнай сеткі падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі работнікаў уліку Міністэрства статыстыкі і аналізу РБ.**

Цяпер вучэбная сетка па падрыхтоўцы, перападрыхтоўцы і павышэнню кваліфікацыі кадраў пры Міністэрстве статыстыкі і аналізу РБ уключае ў сябе Мінскі вучэбны цэнтр, Гродзенскі вучэбны цэнтр, Магілёўскі вучэбны цэнтр, Брэсцкую бухгалтарскую школу, Віцебскую бухгалтарскую школу, Гомельскую бухгалтарскую школу, Баранавіцкую бухгалтарскую школу, Бабруйскую бухгалтарскую школу, Барысаўскую бухгалтарскую школу.

За мінулыя 70 гадоў вучэбнай сеткай рэспублікі ажыццёўлена сапраўды велізарная работа па падрыхтоўцы і павышэнню кваліфікацыі галоўных, старшых бухгалтараў, бухгалтараў для ўсіх галін народнай гаспадаркі, апаратараў, праекціроўшчыкаў машыннай апрацоўкі інфармацыі, праграмістаў ЭВМ, спецыялістаў па тэхнічнаму абслугоўванню і рамонту вылічальнай тэхнікі; кіруючых работнікаў, спецыялістаў органаў дзяржаўнай статыстыкі, спецыялістаў кантрольна-рэвізійнага апарату. Толькі за перыяд да 1996 г. у вучэбных цэнтрах Мінстата РБ прайшлі навучанне каля 350 тысяч спецыялістаў.

Вядучае месца сярод навучальных устаноў Мінстата РБ па праву належыць Мінскаму вучэбнаму цэнтру — больш за 50 працэнтаў усяго аб'ёму работы прыпадае на гэтую навучальную ўстанову. За ўсе гады існавання вучэбная сетка з'яўлялася надзіва жыццяўстойлівай, гібкай, мабільнай, адпаведнай патрэбам грамадства. У апошнія гады вучэбная сетка рэспублікі выконвае вялікі сацыяльны заказ ад Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці насельніцтва па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы беспрацоўных.

# НА ЯГО КАРЦІНАХ — УСЁ СТАГОДДЗЕ

**Мастацтва таталітарнага рэжыму... Паняцце гэтае настолькі ўбілася ў нашу свядомасць, што мы і за мастацтва яго не лічым. Колькі разоў мы бачылі ўсюды — ад школьных падручнікаў да адміністрацыйных будынкаў — плакаты, рэпрадукцыі, карціны з назвамі: «Слава Сталіну!», «Рабочыя на ўборцы ўраджаю» і гэтак далей, не кажучы ўжо пра бясконцыя партрэты, партрэцікі, бюсты, скульптуры, помнікі. А між тым гэта сапраўднае мастацтва, выкананае высокапрафесіянальна і высакаякасна. І гэта даўно зразумелі на Захадзе, як і тое, што ў хуткім часе творы сацрэалізму стануць антыкварыятам, і таму з ахвотай іх купляюць.**

Адзін з самых вядомых нашых мастакоў-сацрэалістаў — Яўген Ціхановіч. 25 лістапада яму споўнілася 85. З гэтай нагоды я завітала да яго ў госці, паглядзела на творы, пагутарыла. Яўген Мікалаевіч расказваў пра сябе, пра палітыкаў, якіх ён бачыў дастаткова на сваім шляху, пра Савецкі Саюз у 30-я, 40-я, 80-я гады, аналізаваў, прапаноўваў... І рабілася зразумелым, што яго мастацтва — гэта ён сам. Адно цэлае. І адначасова — сродак рэалізаваць сябе, сродак выжыць. Склалася ўражанне, што ён у аднолькавай ступені і палітык, і дыпламат, і мастак. І проста чалавек, са сваімі перажываннямі, пачуццямі, меркаваннямі, не ўсе з якіх, дарэчы, можна было выказаць. І таму ўжо сёння, у наш час галоснасці, Яўген Ціхановіч пачаў пісаць артыкулы, замалёўкі, успаміны, дзе ясна бачыцца яго стаўленне і да існуючых рэжымаў, і да шматлікіх падзей, і да велізарнай колькасці людзей, з якімі давялося сустрэцца Яўгену Мікалаевічу. Але час, у якім ён жыў, патрабаваў свайго. Без агаворак.

Сёння купляюцца цэлыя выставы мастака. Экслібрысы Ціхановіча лічыць за гонар мець кожны больш-менш прыстойны калекцыянер. Вы скажаце: «Гэта ж элементарны гандаль! Ён малюе не тое, што адчувае, а тое, што купяць!» Так падумала і я. І толькі падумала, як Яўген Мікалаевіч паскардзіўся, што ў прэсе яго пару разоў называлі «прадажным», было вельмі балюча...

— А хіба вы можаце гэта абвергнуць? — спытала я.

— Я дыпламат па натуры. Так, я атрымліваю грошы за сваю працу. Але малюю не тое, што скажуць, а тое, што, як я мяркую, найбольш патрэбна. І ганаруся тым, што маю вядомасць, а мае творы — попыт.

Ён адчувае наш час гэтак жа добра, як і кожны момант свайго жыцця. Яго можна асуджаць, а можна і захапляцца. Яму можна зайздросціць, а можна і радавацца за яго.




Яўген ЦІХАНОВІЧ. Афорт 1982 г.

Старэйшы мастак Беларусі, чалавек, які перажыў НЭП, 37-ы год, вайну, акупацыю, «застой», перабудову, узлёты і падзенні, здрады і прызнанні, боль і радасць...

**Яна САВІЦКАЯ.**

*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

# ЛІШНІ,
## або Небяспека прэцэдэнту

**Колькі разоў я пісаў пра Віктара Буто? Чатыры. Гэта будзе пяты. Можна павіншаваць сябе з маленькім юбілеем. Праўда, ён носіць крыху сумнае адценне.**

Зноў трэба нагадаць лёс Віктара Мікалаевіча. 36 месяцаў назад яго незаконна звольнілі з работы. Ён працаваў у тралейбусным дэпо № 5 вадзіцелем. Таксама ж ён — ліквідатар. У сакавіку 1993 года праходзіў чарговы штогадовы медыцынскі агляд. Аднаго дня не хапіла, а другі дзень яму палічылі як прагул. І хуценька звольнілі. З кім іншым так не абышліся б. Але Віктар прымаў, па меркаванню начальства, занадта актыўны ўдзел у рабоце свабоднага прафсаюза дэпо.

З таго часу пачалася яго эпапея па аднаўленню на рабоце. Жыве на выпадковыя заробкі, іншы раз пазычыць, іншы раз самі вадзіцелі дэпо дапамогуць. Так перабіваецца з хлеба на квас. Служба занятасці неаднойчы прапаноўвала яму месцы новай работы. Буто, такі дзівак, хоча працаваць па спецыяльнасці. У гэтым яму з незразумелай упартасцю адмаўляюць. Хоць ён і ведае, што вадзіцелі тралейбусаў патрабуюцца.

На фоне апошніх скандальных падзей гісторыя былога вадзіцеля тралейбуса выглядае нязначнай. Гэта, праўда, гледзячы для каго. Для Віктара яна такой зусім не ўяўляецца. Шчыра кажучы, ён мяне заразіў сваёй беззапаветнай упартасцю. Мне разам з ім хочацца давесці справу да лагічнага канца. Хоць шанцаў, прызнацца, мала. На чалавека, які выйшаў са строю, у нас і раней глядзелі шырока адкрытымі вачамі — смяротнік. Цяпер усё гэта можа быць у квадраце...

28 кастрычніка Віктар пачаў чацвёртую галадоўку, балазе, яму гэта няцяжка зрабіць — грошай усё роўна няма. Як і папярэднія, яна вынікаў не дала. Улады ставяцца спакойна: хочаш пагаладаць — калі ласка.

11 лістапада Буто атрымаў цікавую паперу з Камісіі па правах чалавека Вярхоўнага Савета. Намеснік старшыні В. Нісцюк паведаміў яму, што «Ваша справа будзе разгледжана ў Вярхоўным судзе толькі пасля аплаты адпаведнай дзяржпошліны. Так патрабуе Закон. Квітанцыю аб уплаце пошліны перадайце ў нашу Камісію, і толькі пасля гэтага мы паўторна накіруем Вашу справу ў Вярхоўны суд з каментарыем...»

Закон ёсць закон, нічога не папішаш. Але яшчэ ў маі 1995 года старшыня Першамайскага выканкома Мінска І. Мацкевіч растлумачыў Віктару Буто: «...11 красавіка 1995 года рашэннем выканаўчага камітэта Першамайскага раёна Вы вызвалены ад уплаты вышэйпамянёнай уплаты за падачу іскавай заявы ў Пракуратуру РБ... Апрача таго, у адпаведнасці з арт. 5 Закона РБ «Аб дзяржаўнай пошліне» суд таксама мае права ўстанаўліваць дадатковую льготу па судовых справах для асобных грамадзян...»

Іншымі словамі, Віктар Буто мае поўнае права на адмену для яго ўплаты пошліны. Яшчэ з мінулага года. В. Нісцюк пошліну заплаціць патрабуе. Між тым, Віктар Мікалаевіч меў прыватную гутарку з суддзёй Канстытуцыйнага суда Пастуховым. Той растлумачыў: ніякай дзяржпошліны не трэба, тым больш у наяўнасці — пратэст пракуратуры. У гэтым выпадку Вярхоўны суд проста бярэ справу і разглядае яе на сваім пленуме. Дарэчы, чарговы пленум адбудзецца дзесьці ў снежні. Віктар Буто чакае яго з нецярпеннем.

Яшчэ Віктар выношвае думку звярнуцца ў Цэнтр па правах чалавека ААН у Жэневе. Яму далі адпаведныя бланкі. Але Буто павінен прайсці апошнюю інстанцыю — пленум Вярхоўнага суда. Калі той не захоча аднавіць Віктара на рабоце, то гэта будзе азначаць: у сябе на радзіме ён вычарпаў усе магчымасці для абароны сваіх правоў як грамадзянін і застаюцца толькі міжнародныя арганізацыі.

У службе занятасці яму зараз грошай ніякіх не выплачваюць. Падстава: кажуць, не займайся аднаўленнем на рабоце, а лепш уладкуйся на новую. Віктар не супраць, але пры адной умове — калі знойдзецца чалавек, які згодзен займацца яго юрыдычнымі справамі. Такіх на гарызонце не назіраецца. Дон Кіхоты вымерлі, як і дыназаўры, шмат гадоў назад.

Ілюзій у Віктара даўно няма. Ён добра ўсведамляе, з кім мае справу. Напрыклад, яму арганізавалі сустрэчу з буйным чыноўнікам Адміністрацыі Прэзідэнта. Сустрэча, аднак, не адбылася: чыноўнік быў заняты работай па арганізацыі рэферэндуму...

Тут, увогуле, цікавае пытанне. Нам было неаднойчы сказана: новы варыянт Канстытуцыі прымаецца дзеля народа і для яго. Няхай будзе так. Але вось гэты народ прыйшоў да вас у прыёмную — вы яго нават не прынялі, не тое што выслухалі. І не тое што дапамаглі хоць чым-небудзь...

Спрабаваў Віктар прабіцца да аднаго з намеснікаў прэм'ер-міністра. Не атрымалася, затое прапанавалі звяртацца да самога М. Чыгіра. Тут, як на бяду, ён папрасіўся ў адстаўку. І да каго ісці? «Людзі, — скардзіцца Віктар, — мяняюцца як пальчаткі...»

Апошняя галадоўка далася яму вельмі цяжка. Ён галадаў 11 дзён. Ужо на дзесяты дзень не мог заснуць ноччу ад болю. Абвастрыліся старыя хваробы: гастрыт і халецыстыт. Ціск быў 60/90. Карацей, ён сам разумеў, што калі працягне галадаць, то вынікі могуць быць самыя трагічныя. Ды і то, я думаю, ратаваць бы яго не спяшаліся. Шырокая грамадскасць пра галадоўку нічога не ведала. Ды і ведаць, калі шчыра, не хацела...

Калі мы бачыліся апошні раз, Віктар падарыў мне адзін цікавы дакумент. Называецца: «Даведка аб даходах з Дзяржаўнага фонду занятасці за перыяд з 1.07.96 па 31.10.96 г. Выдадзена Буто Віктару Мікалаевічу».

Такім чынам, дапамога па беспрацоўю — 0, стыпендыя — 0, матэрыяльная дапамога — 0, дапамога па бальнічных лістах — 0, іншыя даходы — 0, вынік за месяц (ліпень, жнівень, верасень, кастрычнік) — 0 рублёў.

І што далей? Пройдзены 12 судовых пасяджэнняў, дзесяткі кабінетаў, самыя розныя інстанцыі — можна смела звяртацца ў Кнігу рэкордаў Гінеса, канкурэнтаў у яго мала. Выніку толькі няма.

Відаць, беларуская Феміда — дама абачлівая і асцярожная. Саломіну ў чужым воку яна заўважае адразу, бервяно ў сваім — вельмі і вельмі рэдка.

Што сумна, але цалкам зразумела...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*ГАСЦЁЎНЯ АСТАПА БЕНДЭРА*

# Нестандартныя метады бізнесу і эканамічнае махлярства

(ВЫТРЫМКІ З КНІГІ)

### СТВАРЭННЕ АФШОРНАЙ КАМПАНІІ

Ствараецца афшорная кампанія ў краінах з нізкім падаткаабкладаннем даходаў (востраў Мэн, штат Дэлавер у ЗША, Кіпр, Манака, Люксембург, Панама і інш.), куды і пераводзяцца ў рамках дагавора аб сумеснай дзейнасці фінансавыя рэсурсы прадпрыемства.

Асаблівасцямі афшорнай кампаніі з'яўляецца тое, што яна можа быць створана толькі замежным (для краіны рэгістрацыі) грамадзянінам, гэта значыць яна цалкам можа быць створана менавіта вамі. Такая кампанія не мае права займацца якой-небудзь вытворчай дзейнасцю на тэрыторыі краіны, дзе яна зарэгістравана. Такой кампаніі прадастаўляецца льготны рэжым падаткаабкладання толькі для работы з замежнымі рэзідэнтамі і ў замежнай валюце. У выніку ўсе задаволены: вы атрымліваеце магчымасць адкрыць рахунак у краіне з нізкім падаткаабкладаннем, а гэта краіна — няхай невялікую, але ўсё-такі частку вашых грошыкаў.

Рэкамендуем прасачыць, каб ваша айчынная і тая краіна, дзе вы адкрылі афшор, мелі дагаворы аб выключэнні двайнога падаткаабкладання. Інакш на радзіме ўсе вашы замежныя даходы абкладуць падаткамі па поўнай шкале і вам будзе вельмі крыўдна.

Тыповымі схемамі выкарыстання афшорнай кампаніі з'яўляюцца наступныя:

а) айчынны пакупнік, набываючы праз афшорную кампанію тавар, пералічвае ёй грошай больш, чым патрабуе замежны пастаўшчык. Розніца застаецца на кадзіраваным рахунку афшорнай кампаніі ці канкрэтнай фізічнай асобы;

б) айчынны прадавец, рэалізуючы праз афшорную кампанію тавар, вяртае ў краіну толькі частку атрыманых у выніку здзелкі грошай, пакідаючы розніцу ў патрэбным замежным банку і на патрэбным рахунку.

На практыцы сустракаюцца і іншыя схемы выкарыстання афшорных кампаній.

Найбольш грубай формай работы з'яўляецца ананімная купля замежнай кампаніі, адкрыццё рахунку за мяжой і пералічэнне ўсіх грошай айчыннага прадпрыемства ў якасці перадаплаты за які-небудзь тавар. Затым гаспадар айчыннага прадпрыемства выязджае з краіны ўслед за сваімі грашыма і пачынае ажыццяўляць сваю дзейнасць з афшорнай зоны, кідаючы айчыннае прадпрыемства на волю лёсу.

### ЭКАНОМІЯ НА ПАДАТКААБКЛАДАЕМЫХ ПЛАЦЯЖАХ ЗА РЭКЛАМУ

Памер сродкаў, якія накіроўваюцца на рэкламу і ўключаюцца ў сабекошт прадукцыі, абмежаваны як у Расіі, так і на Беларусі. У гэтых выпадках скарыстоўваюць бартэр ці разлік «натурай».

**Фірма рэалізуе імпартную электронную тэхніку. Яна перадае рэдакцыі журнала ці газеты ў якасці ўзору камп'ютэр, факс і да т. п. Кошт такой тэхнікі, а таксама маркетынгавыя паслугі адносяцца на сабекошт прадукцыі (работ, паслуг) прадпрыемства. Рэдакцыя ж узамен публікуе «скрытую» рэкламу фірмы. Практычна немагчыма даказаць, што гэта аплачаныя рэкламныя артыкулы і што выдаткі на іх звыш устаноўленых лімітаў павінны быць абкладзены падаткам на прыбытак.**

### ЭКАНОМІЯ НА ПЛАЦЯЖАХ У ФОНД САЦЫЯЛЬНАГА СТРАХАВАННЯ

Мэтазгодна вельмі ўважліва вывучыць пералік відаў заработнай платы і іншых выплат, на якія не налічваюцца страхавыя ўзносы. Менавіта гэтыя віды заработнай платы мэтазгодна налічваць сваім работнікам.

**Адлічэнні ў фонд сацыяльнага страхавання працяглы час не рабіліся (а ў некаторых краінах і цяпер не робяцца) на заработную плату, якая налічваецца па дагаворах падраду. Вось і пачынаюць атрымліваць работнікі прадпрыемства адну дзесятую заработнай платы па службоваму акладу, а астатняе — за выкананне дагавора падраду. У сучасных умовах рабіць такое налічэнне стала больш складана. Бухгалтару, які жадае такім чынам дасягнуць эканоміі, неабходна папярэдне абавязкова пракансультавацца.**

### ЗМЯНШЭННЕ ПАДАТКАЎ ПРЫ КУПЛІ-ПРОДАЖЫ АСНОЎНЫХ СРОДКАЎ

Набыццё маёмасці афармляецца па заніжанай цане. Розніца паміж заніжаным і фактычным коштам маёмасці афармляецца як аплата якіх-небудзь паслуг ці як выплата штрафных санкцый прадаўцу. У гэтым выпадку прадавец розніцу паміж балансавым коштам прадаваемай маёмасці і яго заніжанай прадажнай цаной уключае ў свае страты (такую аперацыю лягчэй правесці прыватнаму прадпрыемству, чым дзяржаўнай структуры, у якой кантроль за продажам маёмасці і за прадажнай цаной ажыццяўляюць вышэйстаячыя органы кіравання).

Пакупнік розніцу паміж рэальным і прадажным коштам, афармленую ў выглядзе дагавора аказання паслуг ці як штрафных санкцый, адразу ж спісвае на сабекошт.

### ЗНІЖЭННЕ ПАДАТКУ З ДАХОДАЎ ФІЗІЧНАЙ АСОБЫ ШЛЯХАМ ПЛАЦЯЖОЎ «НА ГУМАНІТАРНЫЯ МЭТЫ»

Грамадзянін піша заяву на пералічэнне ад яго імя сродкаў на гуманітарныя мэты ўстанове культуры, адукацыі, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння. А з гэтай установай грамадзянін дамаўляецца, што пералічаныя грашовыя сродкі пойдуць на аплату льготнай пуцёўкі, навучанне сваякоў і г. д.

**(Працяг будзе)**

**(Аб умовах рэалізацыі даведніка можна даведацца па тэлефонах (017) 2684560, 2691114).**

**Аляксандр ЛУЧАНОК,
кандыдат эканамічных навук.**

*ЖЫЦЦЁ Ў АСАБІСТЫМ ВЫМЯРЭННІ*

# Знесеныя лёсам-II

**Калі пісала ў жніўні матэрыял з гэткай самай назвай, думала, што не буду вяртацца да балючай тэмы. І, паставіўшы пасля фразы: «Чаму, калі адбываюцца перавароты і перакройваюцца межы, церпяць найбольш простыя людзі, якія ва ўсіх гэтых пераваротах і пертрусах не ўдзельнічаюць» пытальнік, які не патрабаваў канкрэтнага адказу, спадзявалася, што для сябе на гэтай праблеме паставіла кропку... Не выйшла. Выпадак сутыкнуў з людзьмі, якія, як і мае папярэднія гераіні, аказаліся занесенымі бурай раптоўных перамен.**

Праўда, у мінулы раз я пісала пра жыхарак расійскага горада Байканура на тэрыторыі Казахстана, якія лічаць сябе (прычым, здалося мне, зусім без трывогі і сумненняў) людзьмі без Радзімы. У самым трывіяльным, але ад гэтага яшчэ больш балюча-блізкім сэнсе апошняга слова. Мае цяперашнія героі не адчуваюць сябе абдзеленымі Радзімай. Ва ўсякім разе, гэта паняцце заўсёды пісалася ў іх з вялікай літары не толькі ў адносінах да «вялікага і магутнага» Саюза, але і да маленькай Беларусі. Вялікага Саюза не стала, засталася адзіная, непадзельная і непазбыўная Айчына — Беларусь. Засталася... за межамі, якія раптам павырасталі паласатымі чорна-белымі слупамі на «бяскрайніх прасторах» таго самага «вялікага і магутнага».

Сумаваць па светлых бярозавых гаях і росных лугах з пералівамі сонечных промняў на світанні, калі ты жывеш за акіянам і свядома памяняў адну краіну на другую, — гэта зразумела. Настальгія па родным краі, жаданне прыехаць паглядзець на яго (і толькі ў рэдкім-рэдкім выпадку вярнуцца назаўсёды) — тыповыя пачуцці ўсіх эмігрантаў з далёкага замежжа. Справа зусім іншая — калі ад гаёў і лугоў аддзяляе толькі рака ці хмызняк, якія раней так лёгка было пераадолець, а цяпер — складана, бо яны называюцца гучным словам «мяжа». Калі разгубленасць і нават роспач нараджаюць раптам тое, што завецца тугой па Радзіме, і чаго не павінна было б быць, таму што вось яна, Радзіма, блізка, усяго колькі гадзін язды... А туга — яна ўсё ж ёсць. І ў кожнага свая. Хто наракае на дурны і жорсткі лёс, які закінуў невядома куды, для каго яна ператварылася ў лёгкі светлы сум, які натхняе на добрыя справы ў імя Беларушчыны і на лірычныя вершы на матчынай мове...

❑

...Ён быў дзіцем вялікага кахання. Вялікага, першага, па-юначаму бясклапотнага і безадказнага. Уладзімір Клімовіч нарадзіўся, калі яго дзяўчынцы-маці ледзь-ледзь споўнілася семнаццаць, а хлопчыку-бацьку было крыху больш за васемнаццаць. Праз год у маладой сям'і Клімовічаў з'явілася яшчэ і дзяўчынка — Людміла... А праз колькі месяцаў бацьку прызвалі ў войска. Дзеці яго не запомнілі, а наступная іх сустрэча адбылася толькі праз шаснаццаць гадоў...

Першае каханне — яно бясклапотнае і безадказнае. Мо таму не такое трывалае, як сталае і выпакутаванае. Асабліва калі яму даводзіцца прайсці выпрабаванне адлегласцю і часам. І — вайной. Васіль Клімовіч пайшоў у войска ў 39-м. За два гады паспеў зрабіць першыя крокі ў вайсковай кар'еры. І вайну сустрэў у афіцэрскім званні. Лёс сутыкнуў на франтавых дарогах з ваеннай медсястрой. Ён помніў сваю Надзею, сваіх Вову і Люсю, але яны былі далёка, а гэта пяшчотная жанчына была блізка, побач. Бясклапотнае і безадказнае юнацкае пачуццё адышло ў мінулае. І афіцэр Васіль Клімовіч напісаў у беларускую вёску маладой жанчыне, якой ледзь мінула дваццаць, што яе муж, Васіль Клімовіч, загінуў смерцю храбрых...

Прыехаць у родную вёску ён змог толькі праз дзесяць гадоў пасля Перамогі. Яго хлусня з «пахаронкай» даўно раскрылася, Надзея выйшла замуж другі раз, у яго таксама на Украіне была сям'я, дзеці... А першых сваіх дзяцей ён баяўся. Баяўся сустрэць іх, ужо дзесяцікласнікаў, такіх падобных адзін на аднаго і на яго. Баяўся глянуць у вочы, баяўся пачуць заслужаныя, сто разоў заслужаныя словы дакору. Жыў у бацькоў, па вёсцы хадзіў агародамі, каб, не дай Бог, не сустрэцца... Дзеці самі прыйшлі да яго. Яны не сказалі слоў папроку, якіх ён чакаў. Ён са здзіўленнем глядзеў на незнаёмых, родных, дарослых ужо людзей. Ён не разумеў, што для іх нязвыклым, пужаючым шчасцем было адчуць упершыню ў жыцці, што ў іх ёсць родны бацька...

Каб хоць часткова, хоць трохі загладзіць сваю віну, прапанаваў дзецям пасля заканчэння школы прыехаць да яго на Украіну. Ён быў вялікім ваенным чынам, мог дапамагчы прыстойна ўладкавацца ў жыцці. Людміла ехаць адмовілася — не змагла дараваць. А Уладзімір памкнуўся за бацькам, спадзеючыся, што выб'ецца ў людзі, стане матэматыкам.

Што ж, мара збылася. Адслужыў у войску, скончыў універсітэт, стаў працаваць канструктарам на ваенным заводзе. Ажаніўся, нарадзіліся дочкі. Украіна стала другой Радзімай, горад Днепрапятроўск — родным горадам...

Дзіўна, нават у тыя далёкія часы суседняя Беларусь была для яго не тое што недасягальнай, але... Прыязджаў дадому ён вельмі рэдка. Праца вымушала амаль увесь час быць на месцы. Пісьмы пісаў раз у паўгода, тлумачыў тым, што яму цяжка пісаць: пачынаеш разумець, што людзі, якія ў думках заўжды побач, на самай справе — далёка... Маці, сястра, малодшы брат не разумелі гэтай яго тэорыі, папракалі, злаваліся... Прыляцеўшы на пахаванне маці, ён доўга і адчайна плакаў на плячы ў сястры, хаця, здавалася, павінна быць наадварот...

Апошні раз ён быў на Беларусі восем гадоў таму. Гасцяваў у сястры, затрымаўшыся ў камандзіроўцы... Прыехалі ўсе пляменнікі — паглядзець на далёкага, амаль незнаёмага дзядзьку... Усёй сям'ёй пайшлі на возера. Калі вярталіся, ён незаўважна адстаў і прысеў на абочыне каля жыта. Малодшая пятнаццацігадовая дачка сястры ўпотай назірала за ім. А ён... Ён сарваў колькі жытніх каласкоў і кветку валошкі. Пяшчотна гладзіў іх няспрытнымі мужчынскімі пальцамі, а па шчоках павольна і цяжка каціліся слёзы... «Дзядзя Валодзя, што вы?!» — «Нічога, ты яшчэ малая, каб зразумець...»

Больш ён на Радзіме не быў. Не прыехаў нават на пахаванне брата. Не змог — не было грошай. «Самостийная» Украіна перажывала, як і ўсе астатнія рэспублікі-сёстры, эканамічны крызіс.

Ён і цяпер не спадзяецца калі-небудзь яшчэ пабываць на магіле маці і ўбачыць жытняе поле каля роднай вёскі. Не спадзяецца, хоць да доўгачаканай пенсіі — крыху больш за год. Калісьці марылася: вось выйду на пенсію — і дадому, хаця б кожны год ды тыдні на два... Зараз іх сямейны бюджэт — яго заробак і жончына пенсія — складаюць столькі, што на адзін білет да Мінска наўрад ці хопіць. А калі пойдзе на пенсію — даехаць бы да мяжы.

Цяпер ён піша пісьмы часта. Падрабязна расказвае пра свае праблемы, дзеліцца цяжкасцямі, нават часам філасофствуе. Пра тое, чаму так атрымалася, пра жорсткі лёс, пра свае нязбытныя мроі і сны. У кожным лісце: «Пішыце, родныя! Не забывайце, што я ёсць». Словы да сястры, а найбольш — да той малодшай пляменніцы. Яна, лічыць, ужо дарослая і разумее яго як ніхто...

А яна зразумела яго і тады, восем гадоў таму. І нават напісала наіўны, па-юначаму нязграбны верш. «Куды б лёс чалавека ні закінуў — яму мілей за ўсё свая зямля», — былі ў ім апошнія словы...

❑

Станіслаў Валодзька жыве ў латвійскім горадзе Даўгаўпілсе. У Прыбалтыку — спачатку ў Літву — ён прыехаў на працу. Нічога дзіўнага ці лёсавырашальнага ў тым не было: усе былі ў межах адной вялікай дзяржавы, ад роднай Астравеччыны да Вільнюса ў тры разы бліжэй, чым да Мінска... Пасля, зноў жа з-за працы, пераехаў у Латвію. І ўжо 12 гадоў лічыць сваім горадам Даўгаўпілс.

У Даўгаўпілсе беларус не адчуе сябе чужаком. Яшчэ полацкія князі кідалі ў гэтым месцы свой якар на шляху з варагаў у грэкі па Дзвіне-Даўгаве. Беларусы тут — хоць і этнічная меншасць, але — спрадвечныя насельнікі. Тым больш, да вялікай Беларусі — усяго паўсотні кіламетраў...

Але калі Прыбалтыка аддзялілася, многія беларусы адчулі-такі сябе чужакамі. Прылічаныя да «рускамоўнага насельніцтва», яны не маюць права нават на грамадзянства...

Станіслаў Валодзька, нягледзячы на тое, што палову свайго дарослага жыцця правёў у Латвіі, таксама не лічыцца яе грамадзянінам. Спадзяецца атрымаць грамадзянства праз год, балазе жонка — ураджэнка краіны. Калі б не гэта — мог бы стаць грамадзянінам толькі ў наступным тысячагоддзі...

Станіслаў, у адрозненне ад першага майго героя, мае магчымасць прыехаць на Радзіму. І прыязджае даволі часта. У родныя мясціны, дзе жывуць сёстры і цёткі, ці ў сталіцу, па грамадскіх справах... «Але нават жывучы так блізка ад Беларусі (а можа, іменна з гэтай прычыны? — А.Л.) адчуваеш пастаяннае жаданне наведаць яе, — прызнаецца Станіслаў. — І як бы блізка мы ні жылі, мы адчуваем сябе беларусамі замежжа»... («Выпадковыя эмігранты», — прыходзіць раптам у галаву дзіўнае словазлучэнне... — **А.Л.**).

Як сапраўдныя, «далёказамежныя» эмігранты, беларусы Даўгаўпілса маюць сваю культурна-асветніцкую суполку «Уздым», выдаюць у мясцовай газеце лісток на беларускай мове. Кіруе ўсёй гэтай справай Станіслаў Валодзька. А яшчэ ён піша вершы. Піша па-беларуску, са школьных гадоў. Сёлета з'явілася на свет першая кніжка паэта «У вачах Айчыны...»

«Я не адчуваю нясцерпнай тугі па Радзіме. Я ж працую і пішу дзеля яе, дзеля Беларусі, і яна тут блізка. Але, разумеючы тое, што наўрад ці вярнуся сюды назаўсёды, адчуваю, што страціў усё ж нешта вельмі дарагое...»

І нараджаюцца вершы. Без той самай нясцерпнай эмігранцкай тугі, але поўныя светлага суму, які і не ў словах нават, а ў рытме, памеры, яшчэ ў нечым, недасягальным чужому разуменню. Як, напрыклад, гэты:

*Заклінаннем неба*
*Гэты клін гусіны*
*Затуманіў вочы*
*Восеньскаму дню.*
*Тут дзяўчо Хатыні*
*Ўслед яму махае*
*Хустачкай пунсовай*
*Вечнага агню.*
*І таму я сёння,*
*Як і ты, таксама,*
*Край мой,*
*зажурбелы,*
*Як гусіны крык!*
*Край мой —*
*Ваша Светласць*
*Родныя Крыніцы*
*І Высокасць Ваша*
*Родныя Бары!*
*Тут жар-птушку шчасця*
*І жах-птушку болю*
*На сваёй гусінай*
*Скуры я адчуў.*
*І вадою з гэтай*
*Студні, мной апетай,*
*У зямлю абмытым*
*Тут сысці хачу!*
*Толькі мне б надоўга*
*На Зямлі пакінуць,*
*Бы ў раллі, глыбокі*
*За сабою след.*
*На табе адзіным,*
*Край спакон жаданы,*
*Тым гусіным клінам*
*Мне сышоўся свет!*

❑

Калега, даведаўшыся, пра што я пішу, скептычна сказала: «Не веру я ва ўсякую там настальгію і сум па Радзіме. Асабліва гэтых, з блізкага замежжа. Проста людзям там не вельмі добра, і яны пачынаюць прыдумваць прыгожыя назвы праяўленням свайго эгаізму..» — «А што б адчувала ты, аказаўшыся, як яны, эмігрантам не па сваёй волі?» — спытала ў яе. — «Ну, гэта не дай Бог...» Сапраўды, не дай Бог... Але чаму ад перадзелаў і пераваротаў церпяць найбольш простыя людзі, якія ва ўсіх гэтых пертрусах і пераваротах не ўдзельнічаюць? Чаму? Рытарычнае пытанне, на якое ўсё-такі хацелася б ведаць адказ.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

# Маленькага «агрэсара» завуць Карэн.
## Яна ведае найкарацейшую дарогу да нашых сэрцаў

Калі я расказаў суседу, што ў рэстаранах «Макдональдс» не будуць падаваць спіртное, ён перастаў паважаць заходнюю цывілізацыю.

Калі я расказаў старэйшаму брату, што ў рэстаранах «Макдональдс» не будуць смаліць цыгарэты, ён хмыкнуў і заявіў, што яго нагі там не будзе.

Затое дзіўныя парадкі ў новых рэстаранах прыйшліся даспадобы маёй жонцы. Але калі я сказаў, што там свежы бутэрброд выкідваюць на сметнік ужо праз дзесяць хвілін, бо яго ніхто не паспеў купіць, яна вырашыла, што я намякаю на ўчарашні суп у нашым халадзільніку, і пакрыўдзілася.

Ва ўсіх трох выпадках я быў невінаваты. Ва ўсім вінавата Карэн, сімпатычная дырэктарка рэстаранаў «Макдональдс» у Мінску. Я расказваю людзям толькі тое, што пачуў ад яе.

Такім чынам, Карэн Бішап, маладая жанчына з Канады, якая вырашыла прадэманстраваць нам, што такое сервіс па-еўрапейску. Альбо па-амерыканску, калі мець на ўвазе, што ўпершыню сетка рэстаранаў звышхуткага абслугоўвання з'явілася ў Амерыцы.

Чыноўнік з міністэрства гандлю абяцаў пазнаёміць нас яшчэ, здаецца, у верасні. У кастрычніку, стаміўшыся «ганяцца» за ёю па далёкім замежжы, ён развёў рукамі. Каб задаць Карэн свае пытанні, я знайшоў яе сам. Не ў Англіі і не ў Германіі, адкуль, як мне казалі, яна зараз не вылазіць, вырашаючы розныя гаспадарчыя праблемы. А ўсяго ў ста метрах ад Дома прэсы — о Божа, яе офіс размясціўся праз дарогу! Жыццё сапраўды цеснае.

**— Скажыце, спадарыня Бішап, чым можна растлумачыць, што якраз Беларусь стала сотай па ліку краінай, дзе з'явіліся рэстараны «Макдональдс»?**

— Відаць, гэта лёс. Проста па часе так супала: калі мы зрабілі свае першыя крокі ў Беларусі, высветлілася, што нейкая краіна свету павінна стаць сотай. У галоўным офісе ў ЗША вырашылі аказаць давер свайму цэнтральнаеўрапейскаму аддзяленню, якое займае вельмі актыўную, наступальную пазіцыю. Яно даволі агрэсіўна заваёўвае еўрапейскі рынак. А ў жыцці, каб дабіцца поспеху, заўсёды патрэбна быць крышку агрэсіўным. Еўрапейскае аддзяленне абрала Беларусь.

**— Акрамя Мінска, што прадугледжвае ваш беларускі праект? Вы ўжо ведаеце, у якіх гарадах і калі будуць адчынены вашы новыя рэстараны? І мы можам паведаміць пра гэта чытачам?**

— Мы гатовы адкрыць свае рэстараны ўсюды, дзе толькі будуць кліенты. Гэта галоўная ўмова. Сёлета і ў наступным годзе асноўную ўвагу ўдзелім вашай сталіцы. Ужо зусім хутка, у снежні, адкрываем адразу тры рэстараны. На наступны год запланаваны яшчэ чатыры — для Мінска. Але я думаю, што фактычна будзе нават больш. І адзін з іх, хутчэй за ўсё, адкрыецца вясной. Адначасова мы сустракаемся з афіцыяльнымі асобамі з іншых вашых гарадоў — Гродна, Гомеля, Брэста. У бліжэйшыя пяць—сем гадоў плануем адкрыць настолькі многа сваіх прадпрыемстваў, наколькі гэта будзе магчыма.

**— Я думаю, вашы спецыялісты загадзя вывучылі магчымасці беларускага рынку. Яны пераканалі вас, што пакупная здольнасць мясцовага насельніцтва дастатковая для таго, каб залы рэстаранаў «Макдональдс» не пуставалі?**

— Паколькі ў правілах «Макдональдс» — быць першым, быць лідэрам, то нам даводзіцца рызыкаваць. Але будучы першымі ў вашай краіне, мы выдатна ведаем, дзеля чаго рызыкуем, і лічым рызыку абгрунтаванай. Сапраўды, было праведзена даследаванне, і яно паказала, што пакупная здольнасць насельніцтва дастатковая, яно можа дазволіць сабе карыстацца нашымі паслугамі. Акрамя таго, я размаўляла прама на вуліцы з многімі людзьмі, яны пацвердзілі гэта.

**— Прабачце, спадарыня Бішап, але цэны ў вашых рэстаранах — яны будуць такімі ж, як і на Захадзе, ці іншымі?**

— Мы адкрываем рэстараны не для выбраных, а для многіх. Гэта перш за ўсё сямейныя рэстараны. Цэны ў той ці іншай краіне напрамую залежаць ад таго, як сябе пачувае яе «сярэдні» жыхар. У Мінску, напрыклад, цэны «скокнуць» прыкладна на 30 працэнтаў ніжэй, чым у Маскве. Мы ведаем, што ў вашай краіне нерэальна мець такія ж цэны, як у Маскве.

**— У вашых рэстаранах — сваё, традыцыйнае меню. Гамбургеры, чызбургеры, бігмакі... Але ці не хочаце вы крышачку парушыць традыцыю і ўвесці ў меню нешта з нацыянальнай беларускай кухні?**

— У любой краіне, дзе б ні працавалі, мы прытрымліваемся традыцыйнага меню. Затое кожны, хто прыйдзе ў нашы рэстараны ў Беларусі, зможа атрымаць такі ж сервіс і такую высокую якасць прадуктаў, як і ў нашых рэстаранах у Таронта, у ЗША ці Цэнтральнай Еўропе — дзе б там ні было. Але гэта не значыць, што мы ніколі не звернемся да беларускай кухні.

**— Дарэчы. Вы амаль год у Мінску. Вам давялося пазнаёміцца з нашай нацыянальнай кухняй? Што вам, як знаўцу, спадабалася?**

— Па-першае, мне падабаецца шашлык...

**— Прабачце, але гэта хутчэй з нацыянальнай кухні народаў Каўказа.**

— Па-другое, пельмені.

**— Расійскае, сібірскае блюда.**

— Па-трэцяе, дранікі, толькі каб было не вельмі многа ікры.

**— Не, Карэн, я застаюся няўмольным. Дранікі з ікрой — гэта зноў не па-нашаму.**

— У такім разе мне падабаюцца проста дранікі.

**— Госці, гэта значыць вашы заўтрашнія кліенты, звычайна хочуць ведаць, хто ж гаспадыня. Магу я папрасіць вас расказаць пра сябе?**

— Маё імя вы ведаеце. Мне 31 год. У сістэме «Макдональдс» працую каля шаснаццаці гадоў. Даўжэй за ўсё — у Канадзе. Мне пашанцавала: цэлыя чатыры гады правяла ў Маскве. Я вельмі палюбіла рускую, можна сказаць — савецкую, культуру, ваш народ. І калі з'явілася магчымасць прыехаць у Беларусь, я абедзвюма рукамі была «за». Вельмі люблю сустракацца з новымі людзьмі, вывучаць новую для сябе мову. Мне падабаецца сустракацца з сябрамі, слухаць музыку. Я незамужам і шчаслівая, што незамужам.

**— Беларускія хлопцы — вельмі настойлівыя...**

Карэн смяецца, у яе вельмі прыемная ўсмешка, і кажа, што яна і сама настойлівая. Потым дадае:

— Я пастараюся па-сяброўску адносіцца да іх.

Потым мы зноў вярнуліся да спраў.

**— Вам было цяжка рухаць вашу справу ў Мінску? Што вам замінала і хто вам дапамагаў?**

— Калі вы асвойваеце новы для сябе рынак, то заўсёды існуюць нейкія праблемы. Праблемы, з якімі мы сутыкнуліся ў Беларусі, былі абсалютна такія ж, як і ў любой іншай краіне. Ужо ў самым пачатку нас зрабіла аптымістамі тое, як да нас адносіліся афіцыяльныя асобы — перш за ўсё ў гарвыканкоме. І асабіста мэр Мінска спадар Ярмошын. Людзі, з якімі я сустракаюся, вельмі прыемныя, кампетэнтныя, і таму спадзяюся, што ў Беларусі «Макдональдсу» будзе спадарожнічаць поспех. Поспех будзе спадарожнічаць і вам самім, Беларусь пераадолее праблемы, з якімі яна сутыкнулася.

У заключэнне нашай сустрэчы Карэн Бішап падкрэсліла некалькі важных, на яе погляд, акалічнасцей:

— Я хацела б яшчэ раз звярнуць увагу чытачоў, што нашы рэстараны — для сям'і. Менавіта таму тут будуць прымальныя цэны, менавіта таму недапушчальныя спіртныя напоі і курэнне. Я хачу гарантаваць нашым будучым кліентам, што іх чакае найвышэйшая якасць прадуктаў і цудоўная культура абслугоўвання. Наш дэвіз — «Якасць, культура, чысціня і даступнасць». І яшчэ. Калі «Макдональдс» прыходзіць у краіну, гэта не значыць, што ён заробіць грошы і пойдзе. Мы прыйшлі, каб застацца назаўсёды. Сведчанне таго — наш клопат пра дзяцей. 9 снежня, у час урачыстага адкрыцця адразу трох рэстаранаў у Мінску, мы аб'явім аб двух нашых падарунках, якія мы зробім гораду. А пакуль што гэта — сакрэт. Я запрашаю чытачоў «Звязды» на ўрачыстае адкрыццё, якое адбудзецца роўна апоўначы з 9 на 10 снежня.

**Распытваў Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ,
фатаграфаваў Яўген ПЯСЕЦКІ.**

# Танней, чым у дзяржаўным гандлі, не даражэй, чым у прыватніка

## Такім правілам кіруюцца ў адкрытым акцыянерным таварыстве «Белгаспгандаль»

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Белгаспгандаль» створана на пачатку мінулага года на месцы ранейшага арэнднага прадпрыемства «Мінская абласная база «Гаспгандаль», якое ў сваю чаргу з'явілася пасля пераўтварэння ўжо проста Мінскай абласной базы па аптоваму гандлю гаспадарчымі таварамі. Дзейнасць АТ «Белгаспгандаль», вядома ж, звязана з фарміраваннем таварнага рынку. Пераважна аптовага. Паказальна, што ва ўмовах цяперашняга свабоднага выбару гандлёвых партнёраў у АТ «Белгаспгандаль» едуць па тавар з усіх куткоў Беларусі, хоць таварыства па-ранейшаму пераважна зарыентавана на Мінскі рэгіён.**



**Варта нагадаць: у свой час, адносна недалёкі, калі замест тавараў у наяўнасці былі скрозь іх дэфіцыт і татальнае размеркаванне, само слова «база», з якой і пачалося АТ, мела негатыўнае гучанне, менавіта на базы спісвалі ўсе грахі. Народ верыў: на базах, якія і размяркоўвалі, ёсць усё, але ўвесь дэфіцыт ідзе сваім людзям. На базы насылаліся частыя праверкі, іх увогуле прапаноўвалі ліквідаваць — як лішняе прамежкавае звяно паміж вытворцам тавараў і пакупніком...**

**Аднак, выходзіць, усё ж патрэбна гэта «непатрэбнае» звяно?**

**Такое пытанне і было зададзена на пачатку гутаркі генеральнаму дырэктару АТ «Белгаспгандаль» Анатолю Сямёнавічу ПРЫГОДСКАМУ.**

— ТАК, для ўсёй сістэмы рознічнага гандлю — як для дробных гандлёвых кропак, так і для даволі буйных магазінаў — гэта вельмі зручнае звяно, — зазначыў Анатоль Сямёнавіч. — Час даказаў: без аптовага гандлю, які гарачыя галовы гатовы былі знішчыць зусім, ніяк не абысціся. Ну, скажам, запалкі, мыла, іншая дробязь павінны быць у кожным магазіне. Няўжо прадстаўнікі 2-3 тысяч магазінаў павінны ехаць на Барысаўскую запалкавую фабрыку кожны па сваю скрынку? А па цвікі — у Рэчыцу, і зноў кожны па сваю скрынку?..

Ад опта нідзе не адмаўляліся. Ён фарміруе асартымент, выступае найбольш буйным заказчыкам перад прадпрыемствамі — вытворцамі тавараў, прадстаўляе перад імі пакупніка. Іншая справа, што раней гэтыя функцыі выяўляліся больш выпадкова, хутчэй, усё зводзілася да знакамітага размеркавання. Дакладней, наадварот — якраз ад размеркавання ўсё і ішло. Каб было інакш, належала менавіта гандляваць, будаваць усю дзейнасць не на размеркавальных, а на таварна-грашовых адносінах. Ну вось, напрыклад, праз ранейшую Мінскую абласную базу аптовага гандлю гаспадарчымі таварамі ішло размеркаванне халадзільнікаў «Атланта». Ёй даводзіўся пэўны ліміт, потым ужо база дзяліла вызначаны ліміт паміж іншымі базамі і найбольш буйнымі магазінамі, выдавала адпаведныя нарады на завод, каб у выніку кожны ўлічаны ў гэтым спісе мог паехаць туды і атрымаць свой халадзільнік. Усё было распісана загадзя. Тавар рухаўся сам па сабе, грошы, сумы гандлёвага абароту, які, тым не менш, даводзіўся і за што трэба было трымаць справаздачу (хоць ва ўмовах размеркавання гэта зусім нелагічна), — самі па сабе; усякая гандлёвая ініцыятыва, можна лічыць, была выключана. Такая сістэма, па сутнасці, адвучвала ўласна гандляваць, вывучаць попыт і г. д.

Опт у новай якасці (ва ўсякім разе, гэта датычыць нашага АТ) вымушаны дзейнічаць на свае страх і рызыку. Тут ужо ўступае ў сілу правіла: як купіў (ці што купіў), так і прадаў.

**— Нармальнае правіла. З пункту гледжання канчатковага спажыўца, г. зн. таго ж пакупніка. Але з яго ж вынікае, што вы, асабліва ў сваёй новай якасці, — пасрэднікі. А ў нас да пасрэдніцтва не надта прыхільныя...**

— Зразумеў. Можаце меркаваць самі, якія мы хцівыя. Наша сярэдняя аптовая нацэнка на тавар — 14 працэнтаў (мінімальная, на асобныя тавары штодзённага попыту — 10). Пры гэтым будзем мець на ўвазе: дазволеная максімальная нацэнка на опт у рэспубліцы, у тым ліку падсумаваная, г. зн. калі пэўны тавар прайшоў праз рукі некалькіх аптавікоў, — 25 працэнтаў. Такім чынам, нас, думаю, можна аднесці, скажам так, да цывілізаваных пасрэднікаў (хоць, між іншым, «нецывілізаваныя» з'яўляюцца ад іх жа агульнага недахвату, г. зн. недахвату канкурэнцыі паміж імі...). Увогуле ж мы на праўленні свайго таварыства ўжо адразу вырашылі: нацэнкай не злоўжываць. З тым, каб добра замацавацца на рынку, і не на дзень, не на два. З тым, каб заўсёды мець шырокае кола сваіх пастаянных кліентаў, партнёраў, якія заўжды гатовы нам плаціць. Найгоршая мэта пасрэдніцтва — схапіць і пайсці. У статуце нашага таварыства таксама запісана, што асноўнай мэтай яго дзейнасці з'яўляецца атрыманне прыбытку. Але ж прыбытак можна нарошчваць і за кошт расшырэння гандлёвага абароту, што мы і робім, за кошт задзейнічання іншых паслуг, скарачэння выдаткаў...

Так, нават пры росце і аб'ёмаў, і інфляцыі выдаткі ў нас, як правіла, пастаянныя. Словам, нашай нацэнкі, разам з іншымі даходамі, хапае і на пакрыццё выдаткаў, і на ўсе падатковыя выплаты, і на фарміраванне ўласных абаротных сродкаў, і на адлічэнні на дывідэнды акцыянерам, якія, дарэчы, робяцца штоквартальна. Разам з тым, яшчэ раз падкрэслю, пры адносна невялікіх нацэнках мы маем галоўнае: перспектыву доўгатэрміновага супрацоўніцтва з нашымі аптовымі пакупнікамі.

**— Анатоль Сямёнавіч, ці могуць вашы аптовыя пакупнікі пра вас сказаць так, як нямала хто казаў раней: на базе ёсць усё...**

— Так. Ці лепш сказаць наступным чынам: амаль заўсёды. Справа ў тым, што апошнім часам асобныя тавары зноў пачала добра купляць у нашых заводаў Расія: гэта халадзільнікі, кнопачныя замкі Мінскага завода аўтаматычных ліній, газавыя пліты, электралямпачкі. Прычым там аналагічная прадукцыя працэнтаў на 30 даражэй... Вядома, заводам патрэбна валюта, адпаведна — цяжэй узяць у іх гэты тавар нам.

Дарэчы, амаль заўсёды ёсць усё не толькі «на базе», але і ў трох нашых магазінах рознічнага гандлю, для аднаго з якіх мы знайшлі месца тут жа, у адміністрацыйным памяшканні, а два іншыя знаходзяцца ў Вілейцы і Жодзіне на арандуемых намі плошчах. (На гэтых плошчах раней размяшчаліся мясцовыя магазіны, але яны былі стратныя.) Добра ці дрэнна гандлюем у розніцу, можаце меркаваць самі: напрыклад, за кастрычнік усе тры магазіны разам нагандлявалі больш чым на 4 мільярды рублёў. З улікам таго, што ў гэтых магазінах працуюць 45 чалавек, на аднаго чалавека прыпадае па 90 мільёнаў. Гэта высокі паказчык, думаю, што падобны не супраць былі б мець многія магазіны. Між іншым, мы не думаем абмяжоўвацца толькі гэтымі трыма фірменнымі магазінамі і гатовы разгледзець адпаведныя прапановы па адкрыццю іх як у Мінску, так і ў іншых гарадах Мінскай вобласці.

Усе магазіны, вядома ж, гандлююць гаспадарчымі таварамі, у адпаведнасці з нашым аптовым профілем. У іх асартымент уваходзіць практычна ўсё, што патрэбна ці можа спатрэбіцца ў гаспадарцы — ад цвікоў да халадзільнікаў.

**— Сённяшняга пакупніка ўсім гэтым наборам, напэўна, нельга здзівіць. Усё гэта ёсць і ў іншых магазінах.**

— Затое адрозная наша цана. Мы арыентуемся на масавага пакупніка, а не на элітнага, маем на ўвазе, што нашы людзі, на жаль, вядома, не такія ўжо багатыя і, вызначаючы цану, зыходзім з наступнага правіла: танней, чым у дзяржаўным гандлі, не даражэй, чым у прыватніка. Карацей, не захапляемся той жа нацэнкай. Скажам, калі ў многіх іншых магазінах нацэнка на мінскія халадзільнікі даходзіць да 20 працэнтаў, то ў нас яна складае толькі 10 працэнтаў. Калі мець на ўвазе цяперашнія заводскія цэны на халадзільнікі — па 3-4 мільёны рублёў, можна прыкінуць, колькі чалавек выйграе, купляючы ў нас.

Увогуле, закупляючы тавар, мы маем справу выключна з айчыннымі прадпрыемствамі, набываем яго за мяжой, калі няма аналагічнага ў нас. Большасць нашых тавараў гаспадарчага прызначэння не ўступае ці мала ўступае замежным, яны, як правіла, таннейшыя. А калі, напрыклад, браць мэблю, якой мы таксама актыўна гандлюем як оптам, так і ў розніцу, то наша мэбля — айчынных прадпрыемстваў, акрамя таго што таннейшая, дык яшчэ і больш падыходзіць для нашых не надта прасторных кватэр.

Да ўсяго ж, маючы справу з імпартам, можна нечакана прагарэць. Так аднойчы здарылася і з намі: закупілі нямецкі лінолеум, але пакуль гандлявалі ім, долар рэзка пайшоў уверх. У выніку замест чакаемага прыбытку давялося падлічваць страты. Мяркую, што для тых, хто гандлюе імпартам, цяперашняя сітуацыя таксама пагражае непрыемнасцямі. Асабліва гэта датычыць аптавікоў, якія маюць 25-працэнтнае абмежаванне ў нацэнцы і могуць маніпуляваць толькі ў гэтых рамках.

**— Як вы адносіцеся да сваіх шматлікіх цяпер канкурэнтаў?**

— Нармальна, яны вымушаюць быць у форме. У нас пастаянна адчынены пакоі з узорамі новай прадукцыі, там пастаянна знаходзяцца таваразнаўцы, якія могуць даць любую кансультацыю. Пры заключэнні дагавораў мы дастаўляем тавар сваім гандлёвым партнёрам на працягу 2-3 дзён (раней гэты тэрмін мог расцягнуцца да 10—15 дзён), з мэтай хуткага абслугоўвання іх набылі і выкарыстоўваем свой аўтатранспарт. Тут жа дарэчы будзе сказаць, што сярэдняя абарачальнасць тавару ў нас — прыкладна 18 дзён (раней — каля 40). А яшчэ нельга забываць, што мы нясём поўную адказнасць за тавар адносна яго якасці і гарантыйных тэрмінаў службы.

Нядаўна нашы спецыялісты нядрэнна папрацавалі на кірмашы, які праходзіў у Мінску, склалі партфель заказаў прамысловым прадпрыемствам на наступны год. Але на гэтым работа па фарміраванню партфеля не завершана. Праз тыдзень будзем праводзіць свой кірмаш, на які запросім нашых гандлёвых партнёраў, пасля чаго вызначымся з партфелем больш дакладна.

Нашы партнёры, і не толькі яны, могуць скарыстоўваць за прымальную плату нашы добра абсталяваныя, аснашчаныя ўсімі неабходнымі пагрузачна-разгрузачнымі механізмамі, а таксама надзейна ахоўваемыя складскія памяшканні — як у нас на асноўнай базе па вуліцы Платонава, так і на філіяле побач з ЦЭЦ-4. У нас таксама арганізаваны мытныя дагляд і афармленне тавараў, дэкляраванне, іх захоўванне на спецыяльных складах у мытным рэжыме. Далей будзем развіваць свой рознічны гандаль. З гэтай мэтай рэканструюем адміністрацыйны будынак, каб атрымаць пад сваю фірменную розніцу большыя плошчы.

**— У вас пачуў наступнае: вы гатовы ўзяць назад ад сваіх гандлёвых партнёраў цяжкарэалізуемы тавар, адпаведна — з вяртаннем ім выкладзеных за гэты тавар сродкаў. Выходзіць, сабе ж ва ўрон?**

— Я ўжо казаў наконт таго, што мы хочам мець пастаянную крыніцу даходаў, а гэта значыць трэба мець пастаянных партнёраў, трывалыя сувязі з імі. І ў дадзеным выпадку лепш ужо страціць выручку ад тавару, чым партнёра, які мог бы палічыць, што яму нейкі тавар, груба кажучы, «сплавілі». Імідж даражэй каштуе.

**— Як вы будуеце плацежныя адносіны з вашымі партнёрамі?**

— З нашымі пастаяннымі партнёрамі — як прадаўцамі, так і пакупнікамі — мы працуем (г. зн. купляем або прадаём тавар) з умовай таго, што ён будзе аплачаны на працягу 20 дзён, словам, прадастаўляем адзін аднаму гэткі кароткатэрміновы таварны крэдыт. Але калі «Белгаспгандль» аплачвае рахункі сваіх пастаўшчыкоў без затрымкі, то ўжо нашы пакупнікі (асобныя), на жаль, не такія дысцыплінаваныя. Напрыклад, на сярэдзіну мінулага месяца меў амаль гадавую запазычанасць на 147 мільёнаў рублёў ваенгандаль № 195 з Мар'інай Горкі, на 42 мільёны — мінскае арэнднае гандлёвае прадпрыемства «Колтавос» і г. д. Усяго ж пратэрмінаванай запазычанасці па нашых рахунках, г. зн. грошай, якія не паступілі да нас, налічваецца на суму каля 700 мільёнаў рублёў. Грошы даводзіцца спаганяць нават праз суд. А, напрыклад, з гандлёвым домам «Надзея» ў Салігорску, які завінаваціўся нам 240 мільёнаў, разыходзіліся праз апісанне яго маёмасці. Шчыра кажучы, не хапае нашай эканоміцы працэсу банкруцтваў. Іншыя гаспадарчыя магазіны маюць па 500—600 мільёнаў рублёў страт і нічога — працуюць...

**— Мне расказалі ў вас: сёлета вас папрасілі паўдзельнічаць у выездзе нашых вытворцаў са сваёй прадукцыяй у Калінінград. Вы завезлі туды прадукцыі на 47 мільёнаў расійскіх, прайшло некалькі месяцаў — атрымалі 8 мільёнаў. Расійскіх жа. Падобныя просьбы часта бываюць?**

— Зрэдку. Але зразумеў сэнс гэтага пытання... Дарэчы, мы гатовы гандляваць і з тымі або іншымі рэгіёнамі Расіі — галоўнае, каб плацілі своечасова. Хоць і калінінградскія грошы не лічу страчанымі.

**— Сёй-той, чытаючы гэты матэрыял, можа прыгадаць нашумелую гісторыю, якая каля 10 гадоў назад здарылася з ранейшым дырэктарам Мінскай абласной базы па гандлю гаспадарчымі таварамі...**

— З пункту гледжання сённяшніх эканамічных адносінаў яна ніяк не цягне на крымінал.

Як вядома, з гэтага зрабілі «справу», дырэктару далі тэрмін і накіравалі на «будоўлі народнай гаспадаркі»... Наколькі мне вядома, ён цяпер зняў з сябе абвінавачанне.

**— І апошняе пытанне: кажуць, акцыі вашага акцыянернага таварыства, якія выстаўляліся ў ашчадных банках, былі рэалізаваны за некалькі дзён.**

— Так, яны не затрымаліся, і, вядома ж, для нас гэта прыемна. Гэта, дарэчы, лішні раз даказвае памылковасць пагляда ў адносна быццам бы непатрэбнасці аптовага звяна. Нашы цяперашнія акцыянеры зрабілі зусім іншую выснову, і, упэўнены, яны не памыліліся. Увогуле нашы акцыі размеркаваліся наступным чынам: 29 працэнтаў засталося ў дзяржавы, а 71 працэнт дастаўся фізічным асобам, у значнай частцы работнікам нашага ж калектыву. Дарэчы, паказальны такі факт: калі на пачатку сёй-той з калектыву збываў свае акцыі, то цяпер, наадварот, шукаюць, каб купіць. Я ўжо казаў, што мы выплачваем дывідэнды штоквартальна, на іх ідзе 10 працэнтаў прыбытку. У выніку сёлета за 9 месяцаў на акцыі выплачана 410 мільёнаў рублёў, або кожны атрымаў на акцыю больш чым па 5 тысяч. Пры гэтым варта мець на ўвазе: нямала хто ў нас мае па 200 і больш акцый.

**— Дзякуй за гутарку.**



**АПТОВЫ АБАРОТ ААТ «Белгаспгандаль» за 10 месяцаў склаў каля 128 мільярдаў рублёў і ўзрос у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 67,6 працэнта.**

**ЧЫСТЫ ПРЫБЫТАК ААТ — больш як 4,5 мільярда рублёў.**

**РЭНТАБЕЛЬНАСЦЬ — 5,7 працэнта (у сярэднім па гандлю рэспублікі — каля 2).**

**СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЯ ЗАРПЛАТА за 10 месяцаў на аднаго работніка склала больш як 2.100.000 рублёў.**





***Адкрытае акцыянернае таварыства «Белгаспгандаль»:***

- **любы тавар гаспадарчага прызначэння як оптам, так і ў розніцу па безнаяўнаму і за наяўны разлік;**
- **самы вялікі выбар гаспадарчых тавараў, прадукцыі бытавой хіміі, мэблі;**
- **самыя нізкія цэны.**

***Нават выпадковыя пакупнікі становяцца пастаяннымі кліентамі ААТ «Белгаспгандаль».***




***Тры фірменныя магазіны «Гаспадарчыя дробязі»:***

- **г. Мінск, вул. Платонава, 34, тэл. (8-017)-2-32-50-53;**
- **г. Вілейка, вул. Валынца, 26, тэл. (8-271)-5-54-11;**
- **г. Жодзіна, вул. Сыракваша, 3, тэл. (8-275) 3-44-53; 3-26-68.**

***ААТ «Белгаспгандаль» аказвае паслугі па адказнаму і мытнаму захоўванню тавараў з ажыццяўленнем пагрузачна-разгрузачных работ на складах па адрасах:***

- **г. Мінск, вул. Платонава, 34, тэл. 2-34-31-22;**
- **Мінскі раён, п/а Азярцо, раён ТЭЦ-4, філіял, тэл. 2-97-64-35.**

***Адкрыты мытныя пасты, дзе арганізавана адпаведнае афармленне грузаў:***

- **Пункт мытнага афармлення «Мінск-Гаспгандаль», г. Мінск, вул. Платонава, 34, тэл. 2-32-31-13; дэкляраванне грузаў: 2-32-31-71.**
- **Пункт мытнага афармлення «Азярцо-Белгаспгандаль», Мінскі раён, п/а «Азярцо», тэл. 2-97-64-70; дэкляраванне: 2-97-64-36.**



*НА ЗДЫМКАХ:*

1. *У магазіне ААТ «Белгаспгандаль» у Жодзіна.*
2. *Таваразнаўцы-рэалізатары Тамара АЛІШЭЎСКАЯ, Тамара БАРЫСЕНКА, Яўгенія КАТЛЯРОВА, Вольга КІСЕЛЬ (эканаміст), Валянціна ЧАРНЯЎСКАЯ ў пакоі, у якім выстаўлены ўзоры новай прадукцыі.*
3. *Магазіны ААТ «Белгаспгандаль» прыцягваюць пакупнікоў не толькі танным разнастайным таварам, але і сваім арыгінальным знешнім выглядам.*
4. *Прыём тавараў на складах ААТ.*

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваў Іван БАРАНОЎСКІ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

